№ 64 (3907)

19 жніўня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Вас чакаюць…

***Калі Вам трэба прадоўжыць падпіску на "Народную Волю" на верасень, паспяшайцеся зрабіць гэта да 28 жніўня.***

***Думаеце, які падарунак зрабіць для бацькоў, сваякоў, сяброў, саслужыўцаў, у якіх у верасні—снежні дзень нараджэння ці нейкая іншая святочная нагода? Не ламайце галаву — афармляйце падпіску на "Народную Волю" і Вам будуць вельмі ўдзячны.***

***Вас чакаюць у любым паштовым аддзяленні.***

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

## Порошенко пригласил Меркель

Президент Украины Петр Порошенко во время телефонного разговора с канцлером Германии Ангелой Меркель пригласил ее посетить Украину для обсуждения вопросов, связанных с «взаимными интересами». Порошенко поблагодарил Меркель за поддержку, оказываемую Украине. Он также выразил надежду, что 30 августа на заседании Европейского Совета будет уделено «должное внимание» положению в Украине.

## Нападение на кортеж принца

В Париже совершено вооруженное нападение на кортеж саудовского принца. Вооруженные злоумышленники похитили 250 тысяч евро, а также отобрали автомобиль.

Нападение на автомобиль, принадлежащий посольству Саудовской Аравии, произошло на въезде в столицу Франции. Ограбление совершили несколько человек, вооруженных автоматами, после чего скрылись с места преступления. Отмечается, что кроме денег в их руки попали документы дипломатической миссии и личные вещи принца.

## Пентагон вернул Библию на флот

Командование ВМС США распорядилось вернуть библии в гостевые комнаты Военно-морских сил страны и провести служебное расследование для выяснения причин появления указания об изъятии священных писаний из гостиничных и жилых комплексов военных моряков.

УЖАС!

## В Луганской области обстреляли колонну беженцев. Многие сгорели заживо

Инцидент произошел в районе села Хрящеватое в Краснодонском районе. Эту информацию Би-Би-Си подтвердил представитель командования антитеррористической операции (АТО) украинских властей Леонид Матюхин. По его словам, многие из тех, кто ехал в колонне, погибли. «Многие сгорели заживо», — сказал Матюхин. Он утверждает, что стреляли сепаратисты.

Как сообщает «Украинская правда», колонна попала под огонь в зоне активных боевых действий. По данным пресс-центра оперативного командования «Север», стреляли из минометов и системой «Град». «В результате есть большое количество жертв. Люди сгорели прямо в автомобилях, которыми их вывозили. Люди просто не успели покинуть транспортные средства, которыми их вывозили», — заявил руководитель пресс-центра Анатолий Прошин.

**Андрей СЕРГЕЕВ.**

КАДРЫ

## Кто возглавит Госконтроль?

Вчера А.Лукашенко освободил **Александра Якобсона** от должности председателя Комитета государственного контроля в связи с переводом на другую работу. Исполнять обязанности председателя КГК пока будет его первый зам **Леонид Анфимов.**

ОФИЦИАЛЬНО

## Генералы шалят?

*Вчера А.Лукашенко призвал руководство Министерства обороны навести порядок с дисциплиной в генеральском корпусе.*



*«Силовой блок, правоохранительные органы работают нормально, грешно было бы обижаться или критиковать их, но тем не менее негатива также хватает»*, — заявил вчера Лукашенко, принимая с докладом госсекретаря Совета Безопасности **Александра Межуева**. И заметил, что его настораживают некоторые вопросы дисциплины, особенно среди офицерского и даже генеральского корпуса в Министерстве обороны: *«Таких фактов предостаточно, Вы, наверное, их получаете. Хочу, чтобы они это слышали — я это знаю».*

ДЫПКУР'ЕР

## Новы пасол Эстоніі ў Беларусі прыступіў да працы



*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Эстоніі ў Беларусі Маіт Марцінсан прыбыў у Мінск на мінулым тыдні. Ён змяніў на пасадзе кіраўніка дыпламатычнага прадстаўніцтва Эстоніі Яака Ленсмента, які працаваў у Беларусі з верасня 2010 года.*

Маіт Марцінсан нарадзіўся 19 ліпеня 1969 года. У 1993 годзе скончыў эканамічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. У тым жа годзе пачаў працаваць аташэ па эканамічных пытаннях у дэпартаменце знешнеэканамічнай палітыкі МЗС Эстоніі.

У 1994—1995 гадах займаў пасаду трэцяга сакратара ў дэпартаменце знешнеэканамічнай палітыкі МЗС, а ў 1995—1996 гадах — дырэктара аддзела Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў гэтым жа дэпартаменце. У 1996—1999 гадах працаваў першым сакратаром амбасады Эстоніі ў ЗША. З 2000 года па 2002-ы быў гандлёвым пасрэднікам у дэпартаменце знешнеэканамічнай палітыкі МЗС, піша БелаПАН.

З 2002-га па 2007 год Марцінсан узначальваў эстонскае пасольства ў Пекіне, затым — службу пратакола ў МЗС Эстоніі. З 2010 года займаў пасаду пасла Эстоніі ў Ірландыі.

ЧУЛІ?

## Статус уцекача — за тры месяцы

*У Беларусь за 2 апошнія месяцы з'ехалі 26 тысяч грамадзян Украіны. 500 з іх папрасілі статус уцекачоў.*

Амбасадар Беларусі ў Кіеве **Валянцін Вялічка** паведаміў пра паток грамадзян Украіны, якія з'ехалі ў Беларусь за апошні час.

*«Літаральна за апошнія месяцы, чэрвень—ліпень, у Беларусь з'ехала больш за 25 тысяч жыхароў Украіны — каля 26 тысяч. Трэба думаць, як іх заняць, дзе яны будуць працаваць»,* — заявіў дыпламат, якога цытуе «Інтэрфакс».

Паводле слоў Вялічкі, у Беларусі працэдура прысваення статусу ўцекача займае каля шасці месяцаў, але цяпер разглядаецца магчымасць скарачэння тэрміну гэтай працэдуры да трох месяцаў.

Дыпламат паведаміў, што каля паўтысячы ўкраінцаў падалі заяўкі на атрыманне статусу ўцекача, а каля 1,5 тысячы чалавек атрымалі дазвол на сталае жыхарства. Разам з тым больш за 3 тысячы чалавек маюць намер атрымаць дазвол на часовае жыхарства.

## Беларусь і Украіна адмяняюць пошліны

*З сённяшняга дня ўкраінскі бок адмяняе спецыяльныя пошліны на ўвоз некаторых груп беларускіх тавараў.*

У сваю чаргу Беларусь адмяняе ліцэнзіі на імпарт шэрагу ўкраінскіх тавараў. Пра гэта паведаміў пасол Беларусі ў Кіеве **Валянцін Вялічка**, перадае interfax.by.

На прэс-канферэнцыі ў панядзелак у Кіеве пасол нагадаў, што ў красавіку—маі 2014 года Беларусь увяла ліцэнзіі на некаторыя імпартныя тавары, у прыватнасці на піва, макаронныя і кандытарскія вырабы, цэмент, шкло. Тлумачылася гэта неабходнасцю ўпарадкаваць асобныя сегменты ўнутранага рынку.

У адказ Украіна ўвяла высокія мытныя пошліны (больш за 55%) на беларускія халадзільнікі, шыны, угнаенні, малочную прадукцыю.

Цяпер, па словах Вялічкі, пасля ўзаемных кансультацый абмежаванні адменены як беларускім, так і ўкраінскім урадам. З 19 жніўня мытні маюць цыркуляры пра тое, што ўсё вяртаецца да зоны свабоднага гандлю, адзначыў беларускі пасол.

КУЛУАРЫ

## У Дзевятоўскага можа з'явіцца супернік на выбарах старшыні федэрацыі хакея

*Падача заявак на пасаду старшыні Беларускай федэрацыі хакея заканчваецца ўжо сёння, а выбары пройдуць 26 жніўня.*



На ўчарашні дзень кандыдатура на пасаду старшыні была толькі адна — Вадзім Дзевятоўскі. Але ў апошнія дні з'явілася інфармацыя наконт яшчэ адной кандыдатуры — старшыні праўлення гродзенскага «Нёмана» **Анатоля Варывончыка.** Пакуль яшчэ старшыня Федэрацыі хакея **Яўген Ворсін** у эфіры "Еўрарадыё" назваў гэтыя чуткі небеспадстаўнымі: *"Ну, гэта небеспадстаўныя чуткі. Чакаем, будзе ён ці не будзе, але пакуль яшчэ дакументаў няма".*

ПАД ГРАДУСАМ

## Не забудзьце парасон!

*На гэтым тыдні чакаецца цалкам камфортнае, але няўстойлівае надвор'е. І без дажджоў не абыдзецца. Такі прагноз агучыў сіноптык* ***Дзмітрый Рабаў.***

— Самы непагодлівы дзень чакаецца ***ў чацвер***, непагадзь прынясе актыўны атмасферны фронт: на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы, — *папярэджвае Рабаў.* — Месцамі моцныя ліўні. Пры навальніцах шквалістае ўзмацненне ветру парывамі да 15—20 м/с. Тэмпература ноччу +9...+16 градусаў, днём +19...+25; цяплей будзе па паўднёвым усходзе краіны, там чакаецца ноччу +17...+18, днём +27...+29 градусаў.

***У пятніцу*** ноччу на большай частцы захаваюцца кароткачасовыя дажджы і навальніцы, а днём з адыходам атмасфернага фронту і ростам атмасфернага ціску дажджы і навальніцы на большай частцы спыняцца, за выключэннем усходніх рэгіёнаў. Тэмпература ноччу +8...+15, днём +18...+24 градусы.

***У суботу*** пераважна без ападкаў. Ноччу і раніцай месцамі туман. Тэмпература ноччу +7...+13, днём +20...+26 градусаў.

***У нядзелю*** з праходжаннем атмасфернага фронту зноў зарадзяць дажджы: ноччу па захадзе, днём на большай частцы кароткачасовыя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Тэмпература ноччу +7...+13, днём +19...+25 градусаў.

**Аліна ВЕТРАВА.**

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ

## Сто тысяч долларов для крепости

*Посольство США поддержит сохранение исторических крепостных укреплений в Бресте.*

В число победителей престижного Всемирного конкурса в рамках "Посольского фонда сохранения культурного наследия" вошла белорусская организация «Фонд развития Брестской крепости». Став одним из победителей, организация получит финансирование в размере свыше ста тысяч долларов США на осуществление инвентаризации и документации внешних фортов и укреплений крепости Брест-Литовск, не входящих в состав мемориального комплекса «Брестская крепость-герой».

*«Посольский фонд сохранения культурного наследия» является программой Государственного департамента США, осуществляемой более чем в 125 странах мира и направленной на сохранение материальных и нематериальных объектов, представляющих культурно-историческую ценность,* — сообщает пресс-служба посольства США в Беларуси.

**Вера ВИР.**

БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

### *Віктар СТАТКЕВІЧ:*

## "Хачу, каб сын закрыў мае вочы, калі я памру"

— Мы ўвесь час адгаворвалі сына ад палітыкі, асабліва маці, — *распавёў intex-press Віктар Статкевіч, бацька экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча, які знаходзіцца за кратамі.* — Мы цудоўна разумелі, што гэта такое. А Мікола казаў, што гэта яго жыццё. Ён заўжды сам выбіраў свой шлях — задавальняла нас тое або не. Цяпер усё яго жыццё як пад дамоклавым мячом.

...Чуў, што майго сына ў свеце прызналі вязнем сумлення. Але што з таго? Мне ўжо 88 гадоў, я жывы труп, і я хачу, каб сын закрыў мае вочы, калі я памру. У каго ёсць свае дзеці — той мяне зразумее...

ПЕРСОНА

## Экс-директор Белгосцирка не прошла кастинг в главный цирк Санкт-Петербурга

*Татьяне Бондарчук отказано в назначении руководителем Большого петербургского государственного цирка на Фонтанке.*



*«Она не прошла согласования. У нас работать не будет. Временно исполняющим обязанности директора назначен Сергей Важенин»*, — цитирует tut.by представителей цирка на Фонтанке.

В мае прошла информация о том, что легендарный худрук цирка **Вячеслав Полунин** пригласил Татьяну Бондарчук на должность руководителя этого культурного учреждения.

В Белгосцирке Татьяна Бондарчук отработала почти 42 года, последние 17 лет была директором. Но летом прошлого года вынуждена была покинуть пост, поскольку Генпрокуратура Беларуси возбудила против нее уголовное дело. Бондарчук заподозрили в злоупотреблении служебным положением. В конце прошлого года стало известно, что она в ходе следствия возместила ущерб и подала ходатайство об освобождении от уголовной ответственности. Вскоре А.Лукашенко это прошение удовлетворил.

ПО ПОВОДУ



### *Мария ЭЙСМОНТ*

# Гепатит С(овести)

Известному белорусскому продюсеру и композитору Максиму Алейникову нужна срочная помощь, у него рецидив гепатита С. На лечение требуется 90 тысяч евро.

Максим — человек публичный и еще — смелый. Он рассказал о своей болезни на всю страну. Друзья и коллеги по шоу-бизнесу тут же провели благотворительный концерт, еще два запланировали на начало сентября. В «Беларусбанке» открыты специальные счета по сбору средств на лечение продюсера.

Очень хочется верить, что у Максима Алейникова все получится, что людская солидарность поможет победить непростой диагноз. Так же, как в прошлом году белорусы не позволили медленно умирать от разрушения печени врачу-травматологу из Гомеля Сергею Малашенко. Узнав о том, что он заражен гепатитом С, Сергей создал сайт в интернете и обратился к неравнодушным людям с просьбой собрать ему на лечение 14,5 тысячи долларов. Нужная сумма была собрана за неделю, а через полгода в своем интернет-дневнике Сергей написал: *«У меня отличные новости! Я закончил курс лечения. И уже готов долгожданный результат ПЦР — «отрицательно». Это значит, что вирус в крови не определяется. Благодаря всем вам у меня получилось!»*

Гепатит С — очень коварная болезнь, но у пациентов есть шанс на выздоровление, потому что уже давно создано лекарство от этого недуга. Однако препараты дорогие и не всем доступны. Минимальный курс лечения обходится почти в 3 тысячи долларов, годовой курс — в 14,5 тысячи. Бывают ситуации, когда помочь могут только новейшие фармацевтические разработки, но тогда и цена выздоровления увеличивается в разы, как в ситуации с Максимом Алейниковым — до 90 тысяч евро. Но если лечение не проводить, болезнь становится хронической и может привести к циррозу и раку печени.

В Беларуси каждый год хронических больных гепатитом С становится все больше. Только вдумайтесь: в 2012 году по сравнению с 2011-м количество новых случаев заболевания хроническим гепатитом С выросло на 32%. А если бы эти люди начали вовремя лечение, не теряли драгоценные дни, месяцы на поиски средств, которые не всегда удавалось найти? Ведь не все имеют смелость, как Максим Алейников или Сергей Малашенко, объявить свой диагноз на всю Беларусь.

До 2009 года больные гепатитом С в нашей стране имели скидки при покупке лекарств. Сейчас ни льготного, ни тем более бесплатного лечения у них нет. Чиновники заявили, что лечить таких больных — дорогое удовольствие для бюджета. Если оказывать бесплатную помощь всем заразившимся, в год потребуется около 55 миллионов долларов. Были и другие, более циничные, аргументы: мол, гепатит С — болезнь наркоманов и проституток, они заражаются в 7 раз чаще, чем обычные люди. Хотя всем — и особенно специалистам — прекрасно известно, что пути заражения вирусом самые разные: при переливании крови, в стоматологическом кабинете, на маникюре... То есть риск заболеть есть у любого. Максим Алейников предполагает, что заразился вирусом в детстве, когда ему, спасая от частых отитов, переливали кровь. Сергей Малашенко уверен, что болезнь «заработал»: будучи травматологом, он постоянно контактирует с кровью...

В США и странах Западной Европы гепатит С лечится по обязательной медицинской страховке. В соседней Литве помощь таким пациентам предоставляется бесплатно, если они работают в отечественных компаниях. В Латвии государство берет на себя 75% стоимости лечения больных гепатитом С. И там не кричат на каждом углу, что медицина у них бесплатная и доступная.

Конечно, государство не может всех больных белорусов лечить за свой счет. Это дорого, никакая казна не выдержит такой нагрузки. Но почему-то несколько лет назад больным гепатитом С могли предоставлять скидку на лекарства, а сейчас, когда в стране и дворцы строятся, и чемпионаты мира проводятся, и рост ВВП наблюдается, этой поддержки их лишили. И потом: почему одних пациентов наше государство берет под свою опеку, а других нет. Например, пересадка печени — очень дорогостоящая процедура, но для белорусов — что, конечно, хорошо — бесплатная. Сама операция стоит около 20 тысяч долларов, потом 6—8 тысяч долларов ежемесячно требуется на одного человека, чтобы обеспечить его препаратами, которые не позволяют донорскому органу отторгаться. А теперь стоп: руководитель РНПЦ трансплантации органов и тканей Олег Руммо в одном из своих интервью заявил, что основная масса пациентов, которым нужна пересадка печени, — это как раз больные циррозом печени, вызванным гепатитом С. То есть получается: если пациента вовремя вылечить от гепатита С, то, возможно, в будущем не потребуется не менее дорогостоящая трансплантация. Об этом что, никто не задумывается?

...Помочь белорусам, больным гепатитом С, просят уже даже иностранцы. В прошлом году казахстанский общественный фонд "AGEP'C" направил на имя белорусского президента письмо с просьбой вернуть таким пациентам льготы на лечение. Неизвестно, что ответил и вообще ответил ли на это письмо А.Лукашенко. Но жизнь больных гепатитом С в нашей стране — это по-прежнему борьба не столько с болезнью, сколько с несправедливостью: государство, с одной стороны, не создает возможностей заработать деньги на лечение, а с другой — отказало больным гражданам в какой-либо помощи и надежде на жизнь. Бесплатным это лечение стало только для детей. И только с прошлого года.

Народная Воля http://www.nv-online.info 19 ЖНІЎНЯ 2014 г.

ЭКСПРЕСС-АНАЛИЗ

# Что строить будем?

*Не так давно А.Лукашенко, оценивая проект застройки территории завода «Горизонт», заявил, что Минску не требуются дополнительные отели и бизнес-центры — их и так уже достаточно.*
*А каких объектов не хватает? Что сегодня нужно строить в первую очередь — жилье, больницы, ледовые дворцы, стадионы? Об этом «Народная Воля» расспросила некоторых известных архитекторов.*



### Геннадий ДУЛЕВИЧ, главный архитектор и директор УЧПП «Творческая мастерская Дулевича Г.А.»:

— Мне кажется, на самом деле произошло перенасыщение столицы всевозможными объектами. Уже настроено и напроектировано столько, что, возможно, действительно стоит остановиться. И Лукашенко прав: на самом деле Минску не нужно, например, столько пятизвездочных отелей — они просто не заполняются.

Кстати, ни в Чехии, ни в странах Балтии — нигде так много не строят, как у нас! Даже в Москве резко упали объемы строительства и проектирования!

С торговыми центрами у нас уже тоже перебор. Во всяком случае в столице — точно. Обратите внимание: во многих больших недавно построенных комплексах нет народа! Нужны ли гипермаркеты и крупные торговые центры в регионах? Я сомневаюсь. Мне кажется, эти объекты там будут просто невостребованными...

На мой взгляд, сейчас упор должен быть прежде всего на усовершенствование того, что есть: модернизацию производств, всего того, что связано с питанием. Плюс жилье. Но при этом жилье должно быть недорогое. Сегодня, кстати, почти на всех новостройках висят объявления о продаже квартир или сдаче в аренду офисных помещений. И это не всегда связано с ценой квадратного метра. Например, я строил дом в Лебяжьем — там стоимость квадратного метра около 1100 долларов. Недели две назад там было 4 свободные квартиры: некоторым не по силам вытянуть кредит и они намерены освобождать жилплощадь.

### Анатолий ШАБАЛИН, главный архитектор РУП "Институт "Белгоспроект":

— Думаю, не всегда у нас объекты обеспечены инфраструктурой. Когда строятся жилые районы, там обязательно нужно сразу предусматривать детские садики, школы, магазины шаговой доступности и прочее. Вот этого у нас не хватает и над этим нужно работать. Стадионов, торговых центров — всего этого, на мой взгляд, уже много. Острой жилищной проблемы тоже нет — нашего жилья хватает даже россиянам.

### Виктор КРАМАРЕНКО, член-корреспондент Международной академии архитектуры, лауреат Госпремии Республики Беларусь, профессор:

— Я считаю, сейчас в Минске надо решать транспортную проблему. Вот сейчас как раз стою в пробке в Старом городе — проехать невозможно! И припарковаться негде. И нет здесь места человеку. Поэтому считаю, что Старый город нужно модернизировать, превратить его в пешеходную зону, чтобы здесь главным был человек, а не автомобиль. Но и те, кто за рулем, тоже должны чувствовать себя комфортно — значит, нужны удобные парковки...

### Валерий МОРОЗОВ, доктор архитектуры, доцент, завкафедрой «Теория и история архитектуры» БНТУ:

— Даже трудно сказать... В Минске можно было бы заняться приведением в порядок жилых домов старой постройки. Надо определиться, что делать с теми же хрущевками: то ли их переоборудовать, то ли сносить постепенно.

Вокруг Минска мало частной застройки — строят современные, большие дома, но мне кажется, это решение не подходит на перспективу, нужно возводить вокруг столицы более комфортабельное жилье.

Что касается регионов, то, думаю, там прежде всего актуальна проблема благоустройства городов. Нужно выделять деньги на нормальные тротуары, велодорожки, дороги. Может быть, не везде есть хорошие магазины, а вот что касается спортивных объектов, то их, видимо, уже и достаточно.

Немного замерло сейчас приведение в порядок памятников архитектуры. А исторические постройки нужно поддерживать в хорошем состоянии. В Минске есть некоторые ключевые объекты, построенные еще в эпоху Брежнева или Хрущева. Их надо сделать аутентичными, чтобы было представление о том времени и отказаться при реставрации от того же сайдинга...

Еще мне кажется, что в Минске не хватает туалетов. Думаю, во всех учреждениях и прежде всего учебных заведениях их надо привести в порядок — некоторые находятся в таком плачевном состоянии, что туда даже страшно заходить. А ведь это вопросы нашей культуры...

**Марина КОКТЫШ.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Анатоль Лябедзька ажаніў сына

*Вяселле адгулялі ў мінулыя выхадныя ў вёсцы на радзіме палітыка ў Стаўбцоўскім раёне.*



*"Гасцей было не вельмі шмат, але і нямала,* — падзяліўся з «Народнай Воляй» прыемнай навіной лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі. — *Вяселле было фактычна адзін дзень, але мы яшчэ пару дзён адзначалі са сваякамі гэтую падзею. Сцэнарый вяселля ад пачатку да канца маладыя прыдумалі самі. На мой погляд, усё прайшло проста выдатна!"*

Нявестку Лябедзькі завуць Аляксандра. Яна без пяці хвілін кваліфікаваны ўрач-стаматолаг. Арцём Лябедзька скончыў БДУ, у ЕГУ вывучаў міжнароднае права. Жыць маладыя збіраюцца асобна ад бацькоў, але разам з бабуляй.

*"Так што зараз мы з жонкай самыя шчаслівыя людзі на зямлі — цяпер у нас акрамя сына ёсць і дачка*, — гаворыць Анатоль Уладзіміравіч. — *Самае галоўнае, што паміж Арцёмам і Аляксандрай ёсць пачуцці — гэтае полымя бачна няўзброеным вокам! Пара вельмі сімпатычная, а як складзецца іх жыццё — будзе залежаць ужо толькі ад іх саміх. Я ад душы жадаю ім шчасця!"*

На вяселлі Анатоль Лябедзька хадзіў ужо з мыліцамі. Нагадаем, што крыху больш за тыдзень таму на футбольным турніры, прысвечаным памяці Генадзя Карпенкі, палітык сур'ёзна пашкодзіў нагу. Дактары кажуць, што перапом складаны, і гіпс прыйдзецца насіць як мінімум да сярэдзіны верасня.

*— Гіпс зараз не такі аб'ёмны і цяжкі, як раней, так што я нават змог надзець касцюм на вяселле,* — распавядае палітык. — *А вось традыцыйны вальс з маладой станцаваць у мяне не атрымалася — на мыліцах, ведаеце, асабліва не павальсіруеш... Але зусім утрымацца ад танцаў усё ж не змог. І павінен сказаць, гэта былі самыя незвычайныя скокі ў маім жыцці..."*

**Марына КОКТЫШ.**

ПРЫСУД

# За 20 долараў беларускі мытнік сядзе на 2 гады

*Цяпер ужо былы супрацоўнік Брэсцкай мытні асуджаны за атрыманне хабару.*




Да двух гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму асуджаны цяпер ужо былы супрацоўнік Брэсцкай мытні, за атрыманне хабару... у памеры 20 долараў. У канцы мая 2013 года на пункце пропуску «Казловічы» асуджаны «спрыяў» вырашэнню праблемы польскага дальнабойшчыка, у аўтацягніку якога тавару было больш, чым паказана па дакументах.

Для пазбягання надгляду машыны кіроўца грузавіка паклаў унутр дакументаў 10 еўра і 300 расійскіх рублёў (на той час агульная сума хабару склала 20 долараў). Супрацоўнік мытні выканаў сваю частку здзелкі, пасля чаго фура пакінула тэрыторыю пункта пропуску без надгляду.

Службовае злачынства выявіў начальнік пункта пропуску. Праглядаючы запісы камер відэаназірання, ён зацікавіўся размовай супрацоўніка мытні і дальнабойшчыка. Ён выклікаў інспектара, і ў працэсе размовы з кішэні падазронага выпалі грошы, якія мытнік выкінуў з акна.

Гэта не перашкодзіла пазбегнуць пакарання. Брэсцкі міжгарнізонны ваенны суд прызнаў мужчыну вінаватым па артыкуле «Атрыманне хабару» і, акрамя двухгадовага турэмнага зняволення, пастанавіў пазбавіць цяпер ужо былога мытніка персанальнага звання «інспектар мытнай службы 1-га рангу».

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Диалог от усталости и обреченности

*ЕС и Беларусь сегодня демонстрируют готовность к развитию диалога и налаживанию отношений. Такое мнение высказал в интервью belmarket.by глава координационного комитета Белорусской национальной платформы (БНП) форума гражданского общества «Восточного партнерства»* ***Андрей Егоров.***

Сегодня можно наблюдать активизацию белорусско-европейских дипломатических контактов, идут переговоры о реадмиссии и упрощении визового режима, с белорусским правительством обсуждаются вопросы модернизации (так называемая временная фаза сотрудничества). «То есть очевидно, что диалог идет», — констатирует А.Егоров.

Он отмечает, что существует несколько факторов, влияющих на то, чтобы Беларусь и ЕС двигались навстречу друг другу.

«Во-первых, есть психологическая усталость от того, что взаимные претензии никак не удовлетворятся», — говорит глава БНП.

То есть ни политика Брюсселя, связанная с санкциями, ни требования Минска, чтобы сотрудничество проходило на равных и без всяких предварительных условий со стороны ЕС, не дают результата. Подобная ситуация вынуждает стороны к каким-то действиям, пусть даже и не предусматривающим полной нормализации отношений.

События последнего времени в Украине только усилили тенденции сотрудничества между ЕС и Беларусью.

«Ощущая затянувшийся кризис отношений, европейские чиновники и политики стали говорить о том, что продолжение политики санкций толкает Беларусь в сторону России. И якобы для того, чтобы избежать этого ухода, необходимо втягивать Беларусь в какие-то формы сотрудничества, даже несмотря на сложную ситуацию с правами человека внутри страны. Украинский кризис усилил эти тенденции, усилил партию сторонников сотрудничества с Беларусью», — уверен А.Егоров.

Между тем глава Нацплатформы констатирует, что сегодня ЕС фактически выбрал путь сепарации отношений с Беларусью, отдельно ведя диалог с государством и отдельно — с гражданским обществом. «Такой путь отношений был выбран потому, что Евросоюз сейчас не желает искать какие-то новые подходы к своей внешней политике, в частности к политике работы с такими сложными странами, как Беларусь», — говорит А.Егоров.

К тому же следует помнить о влиянии на нынешнюю ситуацию определенного цикла политической жизни Евросоюза: сейчас сменился состав Европарламента, меняется состав Еврокомиссии и Европейской службы внешних действий. Пока этот процесс не окончен, существенных перемен в европейской политике ждать не следует.

«Политики, которые сегодня находятся на своих местах, не желают затевать какие-то новые сложные проекты. И сейчас это главная причина того, что они избирают наиболее легкий с их точки зрения формат сотрудничества: раз белорусские власти не соглашаются признавать формат многостороннего диалога с участием гражданского общества, то давайте развернем прагматическое сотрудничество, как бы не связанное с политическими вопросами», — говорит А.Егоров.

В итоге получается как раз то самое сепарирование отношений.

«Как показывает вся предыдущая история взаимодействия с Евросоюзом, это ни к чему не приводит, только способствует консервации ситуации в нынешнем виде», — подчеркивает А.Егоров.

Что касается появления инициативы «Реформум», созданной в поддержку «Европейского диалога о модернизации», то как раз политическая составляющая в ней отсутствует. Это стало результатом кризиса самого ЕДМ: в конечном итоге данный проект так и не стал тем многосторонним диалогом различных стейкхолдеров в Беларуси по поводу будущего страны, как это предполагалось согласно изначальному замыслу.

«Сейчас диалог свелся к режиму экспертных разработок различных реформ. Политическая сущность диалога изъята. В принципе, это не хорошо и не плохо, но в политическом смысле теперь этот проект не имеет никакого значения», — считает А.Егоров.

В свете вышесказанного вполне логично, что инициатива «Реформума» нацелена на разработку именно таких реформ, которые возможно реализовать уже при нынешних белорусских властях. Архитекторы проекта «Реформум» и вовлеченные в него силы воспринимают нынешнюю политическую ситуацию как данность и стремятся к определенному прагматизму: чтобы их работа не осталась только на бумаге, а привела к некоторым результатам уже сегодня.

**Игорь ИЛЬЯШ.**

АПЕТЫТЫ

# Лецішча за дзяржаўны кошт

*Пракуратура Мінскай вобласці ўзбудзіла крымінальную справу ў дачыненні да былога генеральнага дырэктара аднаго з прадпрыемстваў ДВА «Белтопгаз», які выкарыстоўваў тэхніку і рабочых на будаўніцтве ўласнай дачы.*

Крымінальная справа ў дачыненні да былога генеральнага дырэктара аднаго з прадпрыемстваў «Белтопгаз» узбуджана па фактах злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі пры ажыццяўленні будаўнічых работ на асабістых аб'ектах нерухомасці.

Па дадзеных праваахоўных органаў, падазроны ў 2008—2012 гадах сістэматычна прыцягваў падначаленых работнікаў прадпрыемства і тэхніку для ажыццяўлення будаўніча-мантажных і рамонтных работ на сваёй дачы, а таксама ў кватэры дачкі. Пры гэтым аплата працы рабочых ажыццяўлялася прадпрыемствам.

Паводле падлікаў, у выніку злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, дырэктар зрабіў прадпрыемству шкоду ў памеры 14 мільёнаў рублёў. І цяпер можа пазбавіцца волі на шэсць гадоў...

КРЫМІНАЛ

# Сам прыйшоў...

*27-гадовы мінчанін сам з'явіўся ў міліцыю з пакаяннем пасля таго, як махлярскім чынам завалодаў грашыма людзей.*

Мужчына размясціў на адным з інтэрнэт-сайтаў аб'яву аб устаноўцы вакон, маскітных сетак, жалюзі. Атрымаўшы заказ на аказанне мяркуемых паслуг, ён выязджаў да кліента, браў перадаплату і нават рабіў неабходныя абмеры.

Пазней ілжэпрадпрымальнік знікаў, а на тэлефанаванні не адказваў. Праўда, зараз ён знайшоўся.

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# «Куда вы, Александр Григорьевич, смотрите?»

Под таким заголовком 1 июля 2014 года в «Народной Воле» было напечатано Обращение к президенту Республики Беларусь Аллы Шилько из Костюковичей. Сообщаем, что на момент публикации приговор суда в отношении ее мужа не вступил в законную силу. Обвиняемым была подана кассационная жалоба.

«Народная Воля» сообщит читателям об окончательных результатах данного дела.

СКАНДАЛ

# «Казус Мулявина»

***Кому принадлежит идея памятника знаменитому музыканту-«песняру»?***

Споры об авторских правах самые утонченные, запутанные. Но ведь это не повод, чтобы их замалчивать. За ними стоят честь и репутация не только отдельных творческих персон, но и общественных и государственных организаций, которые принимают окончательное решение в ту или иную пользу. И если конкурс и победитель конкурса, по твердому мнению одной из сторон, проведен с нарушениями, то слово «сговор» начинает приобретать отчетливые формы, ведь на кону не только слава, но и деньги, крепкий гонорар.

Сейчас в жесткий творческий конфликт с победителем конкурса на памятник Владимиру Мулявину в Екатеринбурге скульптором **Сергеем Логвиным** вступает скульптор **Сергей Гумилевский**. Вот его письмо в редакцию, своего рода «казус белли» — формальный повод для объявления войны. В данном случае войны за творческое первородство.

*«В феврале 2014 года в Минске прошел 3-й этап конкурса на лучший проект памятника В.Мулявину для города Екатеринбурга. Жюри в результате выбрало проект Сергея Логвина. На 1-м туре Логвин участвовал в конкурсе и выставлял проект памятника-бюста. На 2-м туре он уже работал в составе жюри, участвовал в обсуждении, видел и оценивал проекты, представленные другими участниками конкурса. Ему, видимо, понравился проект скульпторов Л.Н.Гумилевского и С.Л.Гумилевского, и он решил воплотить его в жизнь, но только в качестве своего проекта. Для этого С.А.Логвин украл основное пластическое решение, предложенное Л.Н.Гумилевским и С.Л.Гумилевским, и выдал эту работу за свою. К сожалению, жюри, некоторые члены которого работают в Академии искусств, в которой преподает и С.А.Логвин, поддержало воровство, и выбрало его проект».*

При встрече Сергей Львович Гумилевский добавил:

— Я все-таки думаю обратиться в суд. Считаю, что у нас с отцом *(скульптор Лев Гумилевский — народный художник Беларуси. — **Е.М.**)* украли работу. Наш авторский коллектив выставлял этот проект на первых двух турах конкурса, но жюри его не приняло, и на третий тур мы не пошли. К слову, еще и потому, что нас дезинформировали по поводу размера памятника. Но главное в другом. Я настаиваю, что член жюри (!) Сергей Логвин представил на третий тур проект идентичный нашему. На профессиональном языке это называется, по-моему, плагиатом, а на бытовом — воровством. Однако жюри не обратило внимания на явное сходство двух проектов. Мне кажется, это похоже на заранее спланированный договор. Выбрали «своего».

— В начале июня на заседании художественного совета я как член совета поставил вопрос о неправомерности принятого решения жюри республиканского конкурса, — *продолжал Сергей Львович*. — На это председатель худсовета Михаил Борозна ответил: «Если бы он *(Логвин. — **Е.М.**)* повторил все полностью, каждую складочку, то это был бы плагиат. А так это не плагиат». Естественно, Борозну поддержали его подчиненные — сотрудники академии, они же костяк художественного совета *(М.Г.Борозна — ректор Академии искусств. — **Е.М.**)*. Раньше председателями худсовета были такие народные художники, как Глебов, Савицкий, Кищенко, Ващенко. Их вклад в развитие монументального искусства очевиден и неоспорим, а сегодня...

***Скульптор Сергей Логвин от комментариев конфликтной ситуации отказался.***

**Елена МОЛОЧКО.**



**Проект С.А. Логвина на 1-м туре конкурса.**



**Проект Л.Н. Гумилевского и С.Л Гумилевского на 1-м и 2-м турах конкурса.**



**Проект С.А. Логвина на 3-ем тура конкурса.**

СПРАВКА «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

*Конкурс на лучший эскизный проект памятника Владимиру Мулявину в Екатеринбурге был объявлен Министерством культуры в 2013 году и завершен в начале 2014 года. На конкурс было представлено 16 эскизных проектов.*

*В состав жюри конкурса вошли представители республиканского художественно-экспертного совета по монументальному и монументально-декоративному искусству, Министерства культуры, Академии искусств, Белорусского союза художников, художественный руководитель государственного ансамбля «Песняры», руководитель отделения Посольства Республики Беларусь в Российской Федерации, ректор Уральской государственной архитектурно-художественной академии.*

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Дзень Войска Польскага ў Варшаве



З 1993 года 15 жніўня ў суседняй Польшчы лічыцца адным з галоўных нацыянальных свят — Днём Войска Польскага. Свята ўсталявана ў гонар гістарычнай падзеі — пачатку разгрому польскімі войскамі бальшавіцкай арміі пад камандаваннем Міхаіла Тухачэўскага, які меў месца пад Варшавай у 1920 годзе.

Сёлетнія галоўныя ўрачыстасці ў гонар гэтага свята пачаліся каля летняй рэзідэнцыі прэзідэнта Польшчы, побач з улюбёным месцам адпачынку многіх варшавян — Каралеўскім паркам Лазенкі. Пачынаючы з дзесяці раніцы, натоўпы жыхароў польскай сталіцы пачалі запаўняць абодва бакі Уяздоўскіх алеяў. Хачу падкрэсліць: яны ішлі сюды выключна па сваёй волі, бо аніякіх разнарадак ні навучальныя ўстановы, ні, пагатоў, прадпрыемствы на "мабілізацыю гледачоў" не атрымлівалі (ваш карэспандэнт упэўніўся ў гэтым, папярэдне паразмаўляўшы з кіраўнікамі дзвюх варшаўскіх школ Бажэнай Нэрць і Эльжбетай Кружыньскай).

Роўна апоўдні 15 жніўня прэзідэнт Польшчы, галоўнакамандуючы Узброеных сіл Браніслаў Камароўскі прыняў рапарт камандзіра вайсковага парада і выступіў перад прысутнымі з прамовай. Гэтая прамова змяшчала ў сабе пэўныя новыя акцэнты, звязаныя найперш з падзеямі ў суседняй для палякаў (як і для нас) Украіне. Сярод іншага ён адзначыў: *"У дзень Войска Польскага мы павінны памятаць, што свабода не даецца раз і назаўсёды. Што яе трэба ўвесь час берагчы, узмацняць, цаніць. Што ўсе мы адказныя за моц незалежнай Польскай дзяржавы, за яе Узброеныя сілы. Што ўсе мы разам адказныя за моц Паўночнаатлантычнага саюза — НАТО, да якога мы далучыліся пятнаццаць гадоў таму на шляху, абраным Польшчай пасля вяртання незалежнасці... У апошнія дзесяцігоддзі свет змяніўся да лепшага. Аднак расійска-украінскі канфлікт выразна паказаў, што не ўсе народы нашага рэгіёна могуць жыць у бяспецы, не ўсе могуць радавацца стабільнай свабодзе. Мы бачым, што ўзброены канфлікт — гэта ўсё яшчэ суровая рэальнасць ва Усходняй Еўропе... Бо менавіта ў Еўропе справа дайшла да анексіі Крыма. Менавіта ў Еўропе аказваецца ўзброеная падтрымка сепаратыстам. Менавіта ў Еўропе быў збіты грамадзянскі самалёт, на борце якога знаходзіліся таксама дзеці...*

*Таму свет павінен перастаць жыць ілюзіямі! Яшчэ занадта рана сцвярджаць, што высакароднасць перамагла брутальную сілу, а ўзброеныя канфлікты засталіся адно часткай балючых гістарычных успамінаў. Ужыванне сілы, гвалту, як мы можам пераканацца, усё яшчэ, на жаль, належаць да метадаў, якія практыкуюцца для дасягнення палітычных мэт. Мы па-ранейшаму жывём у свеце, у якіх брутальная сіла часам значыць больш, чым закон...*

*...Мы хочам міру, хочам добрых адносін з усімі нашымі суседзямі — таксама і з расійскім суседам, — але мы таксама хочам бяспекі для сябе, таму нам трэба быць гатовымі да абароны Рэспублікі Польшча. Бо нішто так моцна не заахвочвае патэнцыйнага агрэсара, як слабасць высачанай ім ахвяры. Бо нішто так моцна не забірае ў яго ахвоту нападаць, як моц дзяржавы і адважнасць грамадства...*

*Мы перамаглі тады, у 1920 годзе, і сёння, як і ў тыя часы, праўда на нашым баку. Але сёння — інакш, чым тое было 94 гады таму, — мы належым да вялікага стратэгічнага саюза. У нас ёсць магчымасць не дапусціць агрэсіўных дзеянняў супраць нашай краіны. Але калі б такія дзеянні пачаліся, мы павінны, як і тады, быць здольнымі абараніць нашу незалежнасць, нашу свабоду.*

*Бо гэта той самы народ, тая самая дзяржава, тое самае Войска Польскае! Таму праз некалькі хвілін пілоты-віртуозы вычаруюць на небе колеры нашага нацыянальнага сцяга. Таму, паводле традыцыі, у парадзе 15 жніўня, возьме ўдзел танкветэран, удзельнік бітваў 1920 года, а акрамя таго, мы ўбачым іншыя гістарычныя ўзоры ўзбраенняў даўніх гадоў. Але польскія вочы і сэрцы будуць таксама ўсцешаны ад віду самых сучасных сістэм узбраенняў, якія сёння твораць моц польскай арміі, што суствараe моц усяго Паўночнаатлантычнага саюза. Таму я вельмі ўсцешаны, што ў сённяшнім парадзе, парадзе Свабоды, возьмуць удзел таксама прадстаўнікі узброеных сіл Злучаных Штатаў Амерыкі і Канады..."*

Парад на Уяздоўскіх алеях працягваўся крыху больш за сорак хвілін. У ім прымалі ўдзел невялікія падраздзяленні польскіх сухапутных сіл, ваенна-марскога флоту, авіяцыі, іншых родаў войскаў. Уражвала сучасная баявая тэхніка, а таксама святочны настрой тых, хто яе вёў: камандзіры экіпажаў і разлікаў, кіроўцы баявой тэхнікі толькі крыху стрымлівалі свае ўсмешкі. Некалькі баявых верталётаў і аддзяленняў сіл хуткага рэагавання з армій ЗША і Канады, якія ўжо некалькі месяцаў знаходзяцца ў Польшчы, былі вітаныя бурнымі воплескамі прысутных... Гістарычная частка парада была не менш цікавай: ціхаходныя танкі "рэно" часоў Першай сусветнай вайны чаргаваліся з бронетэхнікай, якую выпускалі ў 1920—1930-х гадах польскія ваенныя прадпрыемствы.

Парад скончыўся, натоўпы варшавян перамясціліся ў недалёкі ад Лазенак гарадскі парк "Агрыкала", дзе было поўнае раздолле, асабліва шматлікім сем'ям з дзецьмі... Трэба было бачыць вочы падлеткаў, якім дазвалялі пасядзець за рулём сапраўдных "леапардаў" або "расамах"! Усе ахвотныя маглі пачаставацца армейскім гарохавым супам, які раздавалі каля некалькіх палявых кухнях. На вялікай зборнай сцэне без перапынку гучалі песні ў выкананні вайсковых хароў пад акампанемент вайсковых аркестраў. Увагу прысутных прыцягваў і вялікі бел-чырвона-белы сцяг, што развяваўся над групай беларускіх школьнікаў з мінскага неафіцыйнага гуманітарнага ліцэя, з Навагрудка і Магілёва, якія былі спецыяльна запрошаны на свята іх даўнімі сябрамі з Варшавы, а напярэдадні свята прыняты ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі першай лэдзі Польшчы пані Ганнай Камароўскай.

Само ж свята пакінула ўражанне цеплыні, годнасці і... ненавязлівасці.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ,**
*Варшава, Польшча.*

ЭВРИКА!

## *Мотоциклы будущего*

Сцена прямо как из голливудского боевика: на темной улице из-за угла выскакивает автомобиль, пролетает мимо и исчезает. Через секунду за ним проносятся полицейские машины с мигалками и сиренами. Им удается блокировать преследуемую машину, но подозреваемые выпрыгивают из автомобиля, убегают по переулкам и скрываются на заброшенном складе. Задыхаясь, они падают на колени, но тут их освещают фары двух черных мотоциклов, и раздается возглас полицейского: «Ни с места!»

Как полиция так быстро сюда добралась? И почему преступники не слышали погони?

Все это напоминает сцену из «Бэтмена», но на самом деле такие мотоциклы могут уже скоро оказаться в арсенале правоохранительных органов. Полиция Лос-Анджелеса сейчас проводит испытания электромотоциклов -- в том числе тех, которые выглядят, как обычные мотоциклы, но передвигаются практически бесшумно. Именно они и фигурировали в описанном выше ролике.

Кроме того, проводятся испытания более экстремальной версии, изначально разработанной для американского армейского спецназа, ей планируется оснастить полицию, патрулирующую бездорожье.

СТОП-КАДР!

# Ратуюцца ад экстрэмістаў



Курды-эзіды Ірака бягуць да граніцы Сірыі, ратуючыся ад экстрэмістаў "Ісламскай дзяржавы". Многія ўжо загінулі ад рук экстрэмістаў, дзясяткі тысяч сталі бежанцамі.

# У-у, паляцела...



Лідар КНДР Кім Чэн Ын кіруе пускамі новых тактычных ракет.

СЛЫШАЛИ?

## *Глайндборнский оперный фестиваль: 80 лет традиций и новых веяний*

Графство Восточный Суссекс, имение Глайндборн. С 1934 года здесь проходит ежегодный оперный фестиваль. С тех пор он превратился в событие международного масштаба благодаря превосходной программе. Он также знаменит незабываемым пикником в антракте. В этом году фестиваль отмечает свое 80-летие. Недавно его возглавил новый талантливый и полный энергии музыкальный директор.

Подбор молодых и талантливых директоров, дизайнеров, исполнителей -- философия трех поколений семьи Кристи, основавшей фестиваль. У его истоков стоял Джон Кристи. Сегодня его внук, Гас, руководит мероприятием, которое за все эти годы ни разу не потеряло свою финансовую независимость.

Гас Кристи, исполнительный директор: "Мы стараемся превратить фестиваль в незабываемое событие. Создаем особенную атмосферу для публики -- на сцене, в саду, в ресторане, в меню. Мы стараемся делать все, что в наших силах, наилучшим образом. Таким был девиз моего дедушки".

ЗА БУГАМ

## *Трамвайная рэвалюцыя*

Жыхары многіх польскіх гарадоў, якія гадзінамі стаяць у заторах, маюць шанцы пакінуць аўтамабілі і аўтобусы і перамяшчацца на трамваях. Муніцыпальныя ўлады масава рамантуюць рэйкі і набываюць сучасныя трамваі. На гэтую мэту яны атрымалі вялікія сродкі з Еўрасаюза. Для Еўрасаюза трамваі з'яўляюцца часткай стратэгіі аховы клімату.

Польскі ўрад абяцае, што да 2022 года запрацуе 168 кіламетраў трамвайных рэек. Да гэтага часу польскія гарады абавязаны купіць 600 новых трамваяў. У выніку ў 2022 годзе на 35% павялічыцца колькасць перавозак насельніцтва грамадскім транспартам. Маштабная мадэрнізацыя чакаецца ў Торуні, Варшаве, Гданьску, Кракаве, Познані і Вроцлаве. Трамвайныя лініі адновяць у тых гарадах, дзе іх раней ліквідавалі, напрыклад, у Ольштыне і ў гарадах Сілезіі.

ЛЮБОПЫТНО

## *Чего втайне боится любой большой начальник?*

Откуда берутся страхи высших руководителей? Легко сказать: "Последнее слово здесь за мной". Но ведь на самом деле так оно и есть. Решения, принимаемые главой корпорации, могут обогатить ее или, наоборот, обвалить ее акции.

Но это касается и более мелких, повседневных действий, нацеленных на адаптацию компании к меняющимся условиям. В наш век нестабильности нельзя гарантировать, что даже, казалось бы, весьма успешная корпорация будет существовать вечно. А теперь представьте, что вы стоите у руля, когда фирма идет на дно.

Это по любым меркам очень серьезный стресс. Если лидер не справился — на нем навечно остается клеймо ничтожества.

Судя по данным исследований, мужчины и женщины склонны по-разному относиться к непростым задачам. Мужчины обычно берутся за них, не раздумывая. Женщины чаще взвешивают «за» и «против» и поэтому может показаться, что они менее уверены в себе. Это одна из причин того, что мужчины быстрее движутся по карьерной лестнице. Но ирония состоит в том, что тщательный анализ задачи — это, как правило, лучший подход к ее решению, чем атака с шашками наголо.

Если женщина добирается до вершины корпоративной пирамиды, то ее тенденция к более внимательной оценке ситуации помогает справиться и с боязнью ответственности. Даже если женщина-директор не обращается за помощью к коллегам, проверенным советчикам или просто членам семьи, уже сам тот факт, что она склонна анализировать ситуацию, помогает удержать страх в рамках и не дать ему разлиться ядом по организму, парализуя волю в самый неподходящий момент.

Страх не должен парализовать руководителя, будь то женщина или мужчина. Надо воспринимать его как издержки высокой должности, вот и все. Конечно, это непросто, но лучше сразу отдавать себе отчет в том, что в придачу к самому главному посту дается и уникальная, очень большая ответственность. Любому лидеру стоит это осмыслить, чтобы потом страхи неожиданно не выплыли, когда нужно принять действительно важное решение.

А какой урок могут извлечь те из нас, кто пока не добрался до самого верха? Не спешите завидовать лидерам. Их ноша тяжела, а они такие же люди, как и мы, не боги горшки обжигают.

**Андрей СЕРГЕЕВ.**

ГОРЯЧАЯ ТОЧКА

# Кто есть кто на востоке Украины

***Конфликт на востоке Украины вывел на первые полосы СМИ имена, прежде широкой публике совершенно неизвестные. Игорь Стрелков, Александр Ходаковский, Валерий Болотов, Игорь Коломойский и Павел Губарев — еще несколько месяцев назад никто не знал о новых лидерах пророссийских вооруженных формирований и политиках восточной Украины. Русская служба Би-Би-Си представляет главных героев кризиса на востоке Украины.***

### Александр Захарченко, «премьер-министр» ДНР

Захарченко был представлен в качестве "премьер-министра" сепаратистского движения "Донецкая народная республика" в начале августа — после того, как занимавший ранее этот пост московский политтехнолог Александр Бородай объявил о своем уходе.

Свою отставку Бородай мотивировал в первую очередь тем, что во главе ДНР должен, по его мнению, встать местный житель. Вероятно, речь идет о намерении сепаратистов доказать, что их действия не контролируются напрямую из Москвы.

Захарченко, родившийся в 1976 году в Донецке, подошел на эту роль как нельзя кстати. Будущий полевой командир учился в техникуме и работал электриком на шахте. По некоторым данным, он также учился на юриста и пробовал себя в качестве бизнесмена.

Захарченко руководит батальоном "Оплот", который считается одной из наиболее организованных вооруженных группировок на востоке Украины. Сторонники "Оплота" зимой 2014 года неоднократно фигурировали в СМИ как причастные к нападениям на участников "Евромайданов" в различных украинских городах.

После назначения премьер-министром ДНР Захарченко стал командующим "объединенного ополчения" в Донецкой области, в том числе и подразделения других полевых командиров Игоря Стрелкова и Александра Ходаковского.

### Игорь Стрелков, полевой командир

Гражданин России Игорь Гиркин, более известный под псевдонимом Стрелков, — один из наиболее известных полевых командиров на востоке Украины.

В прошлом Стрелков воевал в Чечне, Сербии и Приднестровье, сам себя он называет отставным сотрудником ФСБ. Во время боевых действий в Украине Стрелков командовал вооруженной группировкой в Славянске, откуда он передислоцировался в Донецк.

Формально Стрелков до последнего времени числился как «министр обороны ДНР». Сам он называл себя главнокомандующим.

Именно на странице новостей от Стрелкова появилась запись, что сепаратисты сбили военно-транспортный самолет Ан-26, через считанные минуты после крушения малайзийского «Боинга». Эта запись, впоследствии удаленная с сайта, вызвала подозрения, что пассажирский лайнер мог быть сбит пророссийскими группировками по ошибке.

Внезапное объявление об отставке Стрелкова-Гиркина, сделанное

членами его окружения, и его отсутствие в публичном пространстве в течение уже довольно продолжительного времени усилило пересуды о состоянии его здоровья. Ранее поступала информация о его возможном ранении, которая опровергалась его соратниками.

Игорь Стрелков родился в 1970 году, он увлекается исторической реконструкцией. 14 августа стало известно, что он покинул пост министра обороны ДНР.

### Владимир Антюфеев, «вице-премьер» ДНР

Бывший министр госбезопасности непризнанной Приднестровской Молдавской республики Виктор Антюфеев с июля вошел в состав руководства сепаратистского движения "Донецкая народная республика" в качестве вице-премьера.

Антюфеев родился в 1951 году, в советское время служил в правоохранительных органах в Риге, а после распада СССР отправился в Приднестровье, где с 1992-го по 2012 год занимал пост министра госбезопасности.

Впоследствии ему пришлось покинуть регион и уехать в Москву, так как в Приднестровье его заподозрили в краже бюджетных средств, злоупотреблении полномочиями и уничтожении улик.

Еще во время работы в Приднестровье Антюфееву запретили въезд в Евросоюз.

### Игорь Безлер и Александр Ходаковский, полевые командиры

Игорь Безлер по прозвищу "Бес" родился в Крыму в 1965 году. Руководит вооруженным формированием "Народное ополчение Донбасса" в Горловке Донецкой области.

Служба безопасности Украины утверждает, что Безлер является сотрудником российских спецслужб, СБУ неоднократно публиковала аудиозаписи переговоров, приписываемых Безлеру, о военных операциях на востоке Украины, в том числе о сбитом "Боинге".

Александр Ходаковский командует батальоном "Восток", базирующимся в Макеевке. В прошлом он служил в СБУ и командовал донецким отрядом спецназа "Альфа".

После смены власти в Украине он отказался подчиняться новому руководству страны. Донецкую "Альфу" неоднократно обвиняли в причастности к убийствам демонстрантов на Майдане Незалежности в Киеве, однако сам Ходаковский эти подозрения отвергает.

В одной из опубликованных СБУ прослушек человек, чей голос приписывался Ходаковскому, говорил, что он действует по приказу "высокопоставленных друзей в Москве". В интервью агентству «Рейтер» Ходаковский признавал, что у пророссийских сепаратистов был зенитно-ракетный комплекс "Бук", из которого, по всей видимости, был сбит малайзийский "Боинг".

### Валерий Болотов, экс-глава ЛНР

Валерий Болотов в апреле 2014 года призвал жителей Луганской области открыто выступить против новых киевских властей, после чего его избрали сначала "народным губернатором" Луганской области, а затем руководителем "Луганской народной республики" — идейно близкой ДНР группировки, действующей в Луганской области.

В прошлом Болотов служил в десантных войсках, он — уроженец Луганской области. 14 августа Болотов подал в отставку с поста главы ЛНР, сославшись на последствия полученного ранения.

### Павел Губарев, «народный губернатор» Донецкой области

Обычный предприниматель, 31-летний директор рекламного агентства Павел Губарев в марте 2014 года провозгласил себя «народным губернатором» Донецкой области и возглавил повстанческое движение в регионе.

Вскоре Губарева арестовала Служба безопасности Украины по обвинению в попытке свержения государственного строя.

В мае Губарева обменяли на трех бойцов СБУ, которых захватили в заложники сепаратисты в Донецкой области.

Он продолжает выступать от лица донецкого «ополчения» в СМИ и социальных сетях и представляет собой политическое, а не военное крыло власти в «Донецкой народной республике».

### Игорь Коломойский, губернатор Днепропетровской области

Игорь Коломойский — один из самых богатых людей Украины, владеющий популярным в стране "Приватбанком". С марта 2014 года он возглавляет Днепропетровскую область, которая граничит с Донецкой областью.

Сперва его назначение вызвало сомнения в том, что предприниматель способен оградить в основном русскоговорящий регион Украины от беспорядков и превращения в "горячую точку". Однако Днепропетровская область, несмотря на соседство с Донецкой, остается в стороне от потрясений.

Коломойский объявил награду в 10 тысяч долларов за каждого пойманного на украинской земле российского солдата, а также платит по тысяче долларов за каждый сданный властям автомат.

Павел Губарев в июне объявлял награду в один миллион долларов за поимку Игоря Коломойского.

### Сергей Тарута, губернатор Донецкой области

Губернатор Донецкой области Сергей Тарута возглавляет регион с марта 2014 года, он был назначен на эту должность указом и. о. президента Украины Александра Турчинова.

Тарута — предприниматель, никогда не претендовавший на политические посты, однако после назначения он начал играть ключевую роль в жизни охваченного протестами региона. Он управляет Донецкой областью, частично перешедшей под контроль вооруженных сепаратистов, из Мариуполя, куда еще в июне перенес областной центр.

Тарута обещает завершить военную операцию против сепаратистов не позднее зимы, считает, что за конфликтом на востоке Украины стоит Янукович, и не видит иной альтернативы для страны, кроме единой Украины.

**Подготовил к печати**
**Сергей ИВАНОВ.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## Фолк-фэст “Камяніца” запрашае творчых людзей

*6 верасня ў Музеі народнай архітэктуры і побыту пад Мінскам адбудзецца шосты па ліку фолк-фэст «Камяніца». У гэтым годзе арганізатары плануюць пашырыць культурны напрамак мерапрыемства.*




— За гэтыя гады мы склалі якасную музычную праграму фэсту, забавы і рамёствы, — *распавядае каардынатар фестывалю* ***Сяргей Чэгрынец***. — Наша наступная мэта — пашырыць культурны напрамак «Камяніцы». Таму мы запрашаем да ўдзелу фатографаў, дызайнераў і мастакоў, якія працуюць у рэчышчы нацыянальнай культуры. Запрашаем адукацыйныя праекты і проста творчых людзей, якія жадаюць паказаць сваю працу шырокай аўдыторыі. Свае прапановы дасылайце да 25 жніўня на мэйл kamianica2003@gmail.com з апісаннем, прыкладамі і кантактамі.

Склад музыкаў арганізатары плануюць абвясціць у хуткім часе. У фэсце бяруць удзел лепшыя прадстаўнікі беларускай фолк-сцэны і замежныя госці. У мінулыя гады на «Камяніцу» прыязджалі «Даха Браха» (Украіна), Orkiestra Sw.Mikolaja (Польшча), «Іван Купала» (Расія), «Фолькнери» (Украіна) і шэраг іншых выканаўцаў.

### Для даведкі

*Фестываль «Камяніца» праходзіць з 2009 года і мае дабрачынны характар. Усе сродкі ад квіткоў ідуць на рахункі Музея народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Азярцо пад Мінскам (4 км за аўтарынак «Малінаўка»), дапамагаючы захоўваць самую вялікую ў Беларусі калекцыю аўтэнтычнай драўлянай архітэктуры XVIII—XX стагоддзяў.*

КОНКУРС

## Фото на память

*В Беларуси выберут туриста, сделавшего больше всех фото с достопримечательностями.*



Принять участие в Республиканском туристском конкурсе «Познай Беларусь» в номинации «Я познаю Беларусь» может любой желающий.

Победителем объявят того, кто сделает максимальное количество фотографий на фоне достопримечательностей (не более одной фотографии на фоне каждого объекта).

Фотографии должны быть сделаны не ранее 1 октября 2013 года.

ПОСТАЦІ

*Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*

# Ён паказваў, як бараніць Бацькаўшчыну ад ворагаў

***Вялікая, слаўная дата ў багатай і гераічнай гісторыі Айчыны: 500 гадоў таму, 8 верасня 1514 года, мужныя продкі сучасных беларусаў ушчэнт разграмілі ўтрая меншымі сіламі войска маскоўскіх нападнікаў на нашы землі. Постаць аўтара той незабыўнай перамогі — славутага палкаводца Вялікага Княства Літоўскага князя Канстанціна Астрожскага (1460—1530) з цягам часу толькі вырастае ў вачах нашчадкаў, прыцягвае да сябе ўсё больш цікавасці і папросту захапляе. Пазнаёмімся з ім бліжэй і мы...***

...Паводле старажытных царкоўных кніг у Кіеве, княжацкі род Астрожскіх паходзіць з тураўскіх князёў — нашчадкаў Святаполка Ізяславіча, які ў 1093—1113 гадах займаў кіеўскі вялікакняжацкі пасад.

Прадстаўнікі гэтага роду займалі значныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім. Бацька будучага славутага палкаводца Іван Васільевіч вядомы тым, што ў бітве 1454 года пад Церабоўляй разграміў войска крымскіх татараў. Жонка яго, маці Канстанціна Астрожскага, была дачкою князя Івана Бельскага з роду Альгерда. З няпоўных сямі гадкоў страціўшы бацькоў, князь Канстанцін не страціў высакародны дух сям’і, быў верны запаветам, патрыятычным традыцыям.

Ужо ў 1486—1490 гадах ён удзельнічаў у баях супраць крымскіх татараў, а праз два гады і ў вайне з Маскоўскім вялікім княствам, затым зноў — у бітве з крымскімі татарамі. Войскі на чале з братамі Астрожскімі дагналі ворагаў на Брацлаўшчыне над ракой Сарокай, разграмілі іх і вызвалілі *ясыр* (палонную моладзь, якую татары мелі намер прадаць у рабства ў Крыме). У канцы ліпеня 1497 года атрады Канстанціна Іванавіча разбілі пад Ачакавам войскі ханскага сына Мехмеда Гірэя.

За гэтыя значныя перамогі татарамі Вялікі князь літоўскі Аляксандр Казіміравіч надаў К.І.Астрожскаму тытул найвышэйшага гетмана ВКЛ, адарыў ва ўзнагароду Брацлаўскім, Звінаградскім і Вінніцкім староствамі з замкамі ў Падоліі. Гэта дало магчымасць збіраць тут сілы для адпору новым набегам крымскіх татар.

Тэатр ваенных дзеянняў на шырокіх стэпавых прасторах быў вялікі. Германскі імператарскі пасол С.Герберштэйн, праязджаючы праз Літву (Беларусь) у Маскву, занатаваў, што князь Астрожскі шмат разоў граміў татар, прымяняючы адмысловую тактыку. Ён нападаў на іх, калі тыя ўжо цешыліся здабычай, спыняліся на адпачынак і гублялі пільнасць. Астрожскі нападаў на іх знянацку, на досвітку. Такая тактыка прыводзіла да поўнага разгрому праціўніка.

А тым часам стасункі паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім пагоршыліся. Вялікі князь Іван III прэтэндаваў на Кіеў, Чарнігаў і іншыя ўкраінскія і літоўскія (беларускія) тэрыторыі, заключыўшы саюз з Менглі Гірэем. Вясной 1500 г. Іван III абвясціў вайну і пачаў наступ на ВКЛ. Маскоўскія войскі захапілі тагачасныя нашы гарады Бранск, Пуціўль, Старадуб, Гомель, Ноўгарад-Северскі.

Вялікі князь літоўскі Аляксандр Казіміравіч накіраваў войскі для абароны Смаленска ад маскоўскіх ваяроў. Войска гетмана найвышэйшага Канстанціна Іванавіча Астрожскага і дворнага маршалка Рыгора Осцікавіча з нашага боку было невялікім: паводле слоў гісторыка XVI ст. М.Стрыйкоўскага — усяго тры з паловай тысячы коннікаў. У Смаленску яно павялічылася да чатырох з паловай тысяч. А ў маскоўскім войску пад камандаваннем ваяводы князя Данілы Шчэня-Патрыкеева было ажно пад 40 тысяч чалавек!

Дзякуючы вялізнай перавазе маскоўскае войска здолела выйграць бітву, што адбылася 14 ліпеня 1500 года. Ваявода, гетман і іншыя літоўскія военачальнікі трапілі ў палон. Іван III вызваліў К.І.Астрожскага і прапанаваў яму служыць Маскве. Той доўга адмаўляўся. Але 18 кастрычніка 1506 года ўсё-такі пагадзіўся, прыняў камандаванне сіламі абароны паўднёвых рубяжоў Маскоўскай дзяржавы ад татарскіх набегаў. Нагляд за імі быў аслаблены. Не прайшло і года, як, выехаўшы з Масквы на Северскую Украіну для агляду памежных гарнізонаў, Астрожскі разам з верным слугой пераапрануўся ў простае адзенне — і ўцёк на радзіму добра вядомымі яму “татарскімі шляхамі”, мінуючы гарады і людныя дарогі, перайграваючы сваёй кемлівасцю і адвагай маскоўскую пагоню. 25 верасня 1507 года ён прыбыў у Вільню...

Новы вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт Казіміравіч прыняў нядаўняга маскоўскага нявольніка дастойна. Яму была вернута пасада гетмана найвышэйшага, дадзены новыя пасады старасты Луцкага і маршалка Валынскай зямлі. Былі вернуты і ранейшыя староствы. Канстанцін Астрожскі зноў заняў годнае месца ў асяроддзі кіраўнічай эліты Вялікага Княства Літоўскага. Падчас вайны 1507 — 1508 гадоў паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім Княствам Астрожскі зноў камандаваў літоўскімі войскамі.






Аднак і пасля заключэння мірнага пагаднення паміж суседнімі дзяржавамі ваенныя дзеянні не скончыліся. Працягваўся мяцеж перабежчыка да Масквы Міхаіла Глінскага. З некалькімі тысячамі конніцы Канстанцін Астрожскі зрабіў марш на Палессе, каля Слуцка разбіў галоўныя сілы татар — саюзнікаў Глінскага, а праз некалькі дзён дабіў рэшткі татарскага войска. У знак удзячнасці здатнаму палкаводцу вялікі князь ВКЛ перадаў у валоданне Канстанціну Астрожскаму Тураў з воласцю.

У 1509 годзе ўжо немаладым князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі ажаніўся з князёўнай Таццянай Сямёнаўнай Гальшанскай са старажытнага праваслаўнага роду. У пасаг за жонкай — адзінай дачкой князя Сямёна Юр’евіча Гальшанскага, а таксама ў спадчыну як унук князя Івана Бельскага ён атрымаў яшчэ некалькі маёнткаў у дадатак да ранейшых зямельных уладанняў. А ў 1511 годзе князь атрымаў тытул віленскага кашталяна. Такім чынам, Канстанцін Іванавіч Астрожскі ўвайшоў у склад паноў-рады Вялікага Княства Літоўскага, і нават у яе “пярэднюю лавіцу” — вузкае кола кіраўнікоў дзяржавы. І гэта ўсё было па вялікіх заслугах.

У гэты час Канстанцін Астрожскі, прыхільнік і абаронца праваслаўя, адбудаваў Прачысценскую Саборную царкву ў Вільні, фундаваў будаўніцтва царквы ў Тураве. У 1511 годзе разам з мітрапалітам Іосіфам Солтанам дамогся ў вялікага князя Жыгімонта пацвярджэння прывілеяў праваслаўнай царкве ў ВКЛ. І без роздыху — зноў на кані адбіваў напады крымскіх татар на Валынь і нашы землі. У бітве 1512 года каля Вішняўца на Валыні 5-тысячнае войска Астрожскага разбіла галоўныя сілы 25-тысячнага татарскага войска.

Астрожскі вызваліў 16 тысяч палонных, захапіў 10 тысяч коней і нарабаваныя нападнікамі багацці.

Восенню 1512 года — зноў вайна Масковіі супраць Вялікага Княства Літоўскага, яна працягвалася ажно дзесяць год. У 1513-м войска найвышэйшага гетмана ВКЛ перамагло каля Оршы маскоўскіх “гасцей”. А 16 мая 1514 года пачалася новая аблога Смаленска, падрыхтаваная Васілём III больш грунтоўна за ранейшыя. Маючы 300 гармат, нападнікі, хоць і з цяжкасцю, захапілі горад і 80-тысячным конным войскам накіраваліся ўглыб нашай дзяржавы. Яно прасоўвалася да Оршы і Друцка, а потым у Віленскім напрамку.

Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт Казіміравіч насустрач маскоўцам накіраваў войска пад началам загартаванага ў бітвах з ворагамі, мужнага і празорлівага стратэга і тактыка князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага. Паводле слоў расійскага гісторыка М.К.Любаўскага, значную частку сіл К.І.Астрожскага складалі літоўскія (беларускія) рыцары (баяры-шляхта).

Расійскі гісторык С.М.Салаўёў падкрэсліваў лічбу, што ў маскоўскіх ваяводаў было 80 тысяч чалавек, а ў князя Канстанціна Астрожскага — не болей за 30 тысяч. Гэтыя лічбы называюцца і ў рускіх летапісах, і ў звестках іншаземцаў. Такія ж яны ў хроніках М. Стрыйкоўскага і А.Гваніні. Згадзіліся з імі і вайсковыя гісторыкі XX стагоддзя.

...Першы бой адбыўся на левым беразе Бярэзіны 27 жніўня 1514 года. Некалькі маскоўскіх палкоў было разбіта. Тады галоўны ваявода маскоўскі Іван Чаляднін адступіў за Днепр і выбраў для новай, галоўнай бітвы надзвычай зручнае месца на левым беразе, паміж Оршай і Дуброўнай ля ракі Крапіўны на вялікім полі. Канстанцін Астрожскі таксама вырашыў даць тут бой, загадаў пабудаваць два пантонныя масты праз Днепр, пераправіў сваё войска на поле будучага бою.

...Знакамітая бітва на левым беразе Дняпра (за пяць вёрст ад Оршы), адбылася **8 верасня 1514 года.** Гэты дзень увайшоў у гісторыю і ў свядомасць многіх нашых суайчыннікаў як Дзень беларускай вайсковай славы, які даўно варта з гонарам і размахам адзначаць як вялікае дзяржаўнае свята.

З кароткай прамовай па-беларуску да сваіх рыцараў звярнуўся Канстанцін Астрожскі. Ён нагадаў пра слаўныя баявыя традыцыі продкаў, заклікаў быць мужнымі, абараняць ад ворага Бацькаўшчыну...

Атаку пачаў полк правай рукі на чале з маскоўскім баярынам Міхаілам Булгакавым-Голіцам. Адбіўшы атаку непрыяцеля, нашы коннікі разгарнулі бітву на ўсім фронце. Князь К.І.Астрожскі зноў звярнуўся да воінаў: “Будзьце мужамі, няхай кожны адновіць дзельнасць, бо шэрагі непрыяцеля ўжо паблыталіся. На нашым баку стаіць Бог і надае нам з неба абарону”. Зноў заклікаў, каб усе чуліся сынамі сваіх бацькоў, якія выходзілі пераможцамі ў многіх бітвах за Айчыну.

Калі маскоўская конніца Булгакава-Голіцы была разбіта і кінулася наўцёкі, то маскоўскі ваявода Іван Чалядкін са сваім палком дзейнічаў даволі нерашуча і ўжо не мог прадухіліць выніковага краху... Хаця па камандзе К.І.Астрожскага яго войска пачало адступаць, раптам (відаць, так было задумана) яно падзялілася на дзве часткі і перад лесам разышлося ў розныя бакі. Бязладная маса маскоўскіх коннікаў нечакана апынулася перад гарматамі і пяхотай, падрыхтаванымі да моцнага залпу. Праціўнік нёс вялікія страты. Пачаліся ўцёкі нападнікаў. Шмат іх патанула ў Дняпры і Крапіўне. Уцекачоў лавілі цэлую ноч на адлегласці да 60 кіламетраў. Разгром маскоўскага войска быў поўны!

Гісторыкі XIX ст. М.М.Карамзін і С.М.Салаўёў называюць лічбу забітых воінаў з маскоўскага боку ў 30 тысяч чалавек, храніст М. Стрыйкоўскі і летапісы, улічваючы і ўцекачоў, павялічваюць лічбу страты да 40 тысяч. У палон трапіла 5 тысяч чалавек, у тым ліку І.Чаляднін і М. Булгакаў-Голіца.

**ТРЫУМФ КНЯЗЯ КАНСТАНЦІНА АСТРОЖСКАГА І ВОЙСКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА БЫЎ НЕАСПРЭЧНЫ!** Гэтая падзея атрымала вялікі розгалас у Еўропе.

...Наступным днём святкавалі перамогу. Урачыста адслужылі праваслаўны і каталіцкі малебны. Крыху пазней кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт наладзіў у Вільні вялікі прыём у гонар гетмана Астрожскага і рыцараў-пераможцаў. У Германіі быў выдадзены друкаваны лісток пра бітву пад Оршай. А сам пераможца Канстанцін Астрожскі зрабіў у Вільні багатую фундацыю царкве Свята-Духаўскага манастыра ў падзяку Богу за дараваную перамогу. У памяць гэтай фундацыі звонку была прымацавана мармуровая дошка з надпісам на тагачаснай беларускай мове.

Перамога пад Оршай мела значныя міжнародныя наступствы. Імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміліян адмовіўся ад падпісання дагавору з Маскоўскім вялікім княствам, бо гэты мяркуемы акт быў скіраваны супраць Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага...

Але спачываць на лаўрах было не ў характары такой выдатнай асобы, як князь Канстанцін Астрожскі. Ён працягваў удзел у ваенных дзеяннях супраць нашэсцяў з усходу і з боку крымскіх татар. У 1528 годзе выставіў толькі ад сваіх маёнткаў 426 коннікаў, якімі сам і камандаваў...

Канстанцін Іванавіч Астрожскі памёр 10 жніўня 1530 года і быў пахаваны ў Кіева-Пячэрскім манастыры.

Аўтарытэтны гісторык М. Стрыйкоўскі ў сваёй “Хроніцы” назваў яго “другім Ганібалам”. А мы скажам: сярод самых славутых імёнаў Бацькаўшчыны імя найвыдатнага яе сына і абаронцы ніколі не будзе забыта. Яно — як паходня для новых і новых пакаленняў беларускіх патрыётаў, якім дорага наша Айчына-маці. **ЗАЛАТЫМІ ПІСЬМЁНАМІ СВЕЦІЦЦА Ў КНІЗЕ ГІСТОРЫІ ЗАПІС СТАГОДДЗЯЎ — “КАНСТАНЦІН АСТРОЖСКІ”.**

ПАМЯЦЬ

## У Мінску з’явілася памятная шыльда графу Чапскаму

*Караль Чапскі быў гарадскім галавой з 1890-га па 1901 год. Шыльду адкрылі на будынку па адрасе Кісялёва, 30 на будынку заснаванага графам бровара.*

Дзякуючы дзейнасці Чапскага ў Мінску было завершана будаўніцтва Мінскага гарадскога тэатра (цяпер Купалаўскі). Таксама дзякуючы яго намаганням у горадзе адкрылі трамвайконку, першую электрастанцыю, тэлефонную станцыю агульнага карыстання, ламбард, начныя прытулкі, шпіталі, амбулаторыі.




Па прапанове Караля Чапскага быў распрацаваны і зацверджаны новы генеральны план развіцця горада, будаваліся новыя кварталы з шырокімі вуліцамі і шыкоўнымі прэстыжнымі дамамі, праводзілася электрычнае асвятленне многіх вуліц. Пры ім тэрыторыя Мінска значна вырасла ў памерах.

Акрамя гэтага, па ініцыятыве Караля Чапскага ў Мінску быў створаны цэлы шэраг грамадскіх і дабрачынных арганізацый, у тым ліку Таварыства аматараў спорту і Таварыства аховы жанчын. Чапскі шмат увагі надаваў і развіццю сістэмы аховы здароўя і адукацыі гараджан. На тэрыторыі Губернатарскага сада (сучасны Цэнтральны дзіцячы парк імя Максіма Горкага) быў пабудаваны комплекс спартыўных збудаванняў, у тым ліку велатрэк і зімовы каток.

ЗАПРАШЭННЕ

# Музей Быкава зімой працаваць не будзе

*Ужо больш за паўтара месяца дзейнічае ў Ждановічах пад Мінскам Дзяржаўны музей-лецішча Васіля Быкава. Ці знаходзяць да яго дарогу беларусы? Якія экспанаты яны могуць там пабачыць? Чаму на адкрыцці музея адсутнічалі ўдава пісьменніка Ірына Міхайлаўна і ягоныя найбліжэйшыя сябры?*

*На гэтыя і іншыя пытанні ў эфіры Радыё Свабода адказаў загадчык Быкаўскай мемарыяльнай сядзібы* ***Алесь Гібкоўскі***.

**— Алесь, да вас няпроста трапіць, асабліва калі ехаць па кружной дарозе з боку Ждановічаў. Ці шмат наведнікаў бывае ў вашым музеі?**

— За гэты час, як мы працуем, на дзіва, наведнікаў было нямала. Зусім нядаўна два старшакласнікі спецыяльна шукалі сюды дарогу. Ехалі па кружной, аўтобусам № 44, не заблукалі ў лясочку і былі вельмі задаволены, што нас знайшлі. Людзі тут бываюць амаль кожны дзень. Хоць сапраўды трапіць да нас няпроста. Мы хочам зрабіць паказальнікі ўздоўж кружной дарогі, пазначыць з’езд, на канцавым прыпынку прыгараднага аўтобуса таксама трэба ўсталяваць паказальнікі. Думаю, у бліжэйшы час гэта будзе зроблена. Але найперш нам трэба працаваць са СМІ. Часта людзі проста не ведаюць, што ёсць такі музей. Не ведаюць, што мы — філія Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Лецішча будавалася для таго, каб пісаць, але Васіль Быкаў пазней прызнаваўся ў мемуарах: «Думаў, буду пісаць на лецішчы, але тут перашкаджаюць то брэх сабак, то размовы жанчын, то шум дзяцей, то радыё нехта ўключыць гучна». Гэта яму перашкаджала засяродзіцца. Бываў ён тут усё ж нячаста.

Па просьбе Быкава пры пабудове лецішча былі захаваны бярозы.

**— А што ўваходзіць у само паняцце «музей»? Скажам, гэтыя гонкія бярозы на падворку — яны таксама музейныя і знаходзяцца пад вашай аховай?**




— Сапраўды так. Нават у навуковай канцэпцыі музея закладзена: усе пабудовы, увесь участак — гэта мемарыяльны комплекс. Да ўсяго прыклаў сваю руку Васіль Уладзіміравіч. Усе прадметы, якія тут знаходзяцца, усе рэчы, якія з добрай ласкі Ірыны Міхайлаўны Быкавай мы атрымалі, уся мэбля... Увогуле найперш гэта музей побыту пісьменніка сярэдзіны 1980-х гадоў. Нядаўна я бачыў па тэлебачанні Белую дачу Антона Паўлавіча Чэхава ў Крыме, дык там раскоша, дом вельмі багаты. А ў Васіля Быкава ўсё вельмі проста, вельмі сціпла. У нас ёсць задума рабіць тут навуковыя канфэрэнцыі, можа, нават гэтай восенню пачнём, запросім быкавазнаўцаў. Гэта адна з галоўных нашых задач. Тут не павінен быць мёртвы мемарыял, тут мусіць ісці жыццё. Вядома ж, экспазіцыя ранейшых рэчаў павінна пераважаць, аднак гэта не перашкаджае нам знаходзіць нейкія новыя рэчы, нехта з сяброў, са знаёмых можа штосьці падараваць. Мы і новыя рэчы будзем з задавальненнем экспанаваць.

**— Лаўлю вас на слове і перадаю ў музей кнігу Быкава «Паяжджане», дзе сабраны прыпавесці (гэтаму жанру пісьменнік аддаваў перавагу ў апошнія гады). Кніга выйшла ў недзяржаўным выдавецтве, ды і змест там... Вы яе схаваеце ў запасніку?**

—Усё, што прыносіцца ў Дом Быкава, мы не будзем хаваць па закуточках, усё будзе стаяць на паліцах. У нас няма такой лініі, каб нешта схаваць. Быкаў — такі, які ён ёсць. Яго нельга змяніць ці перапісаць.

**— У музейны комплекс уваходзіць і гараж. На жаль, ён пустуе. А дзе падзелася знакамітая быкаўская «Волга»?**

— Аўто знаходзіцца ў старэйшага сына пісьменніка, з ім вядуцца перамовы. У нас у канцэпцыі пазначана, што мы збіраемся экспанаваць знакамітую «Волгу» Васіля Уладзіміравіча. Ён вельмі любіў сваю машыну, на сваіх малюнках падпісваў яе ласкавымі мянушкамі. Суседзі часта заставалі пісьменніка за тым, што ён нешта рабіў у машыне, корпаўся пад капотам. Дарэчы, ён шмат падарожнічаў за стырном — па Прыбалтыцы, Расіі, Украіне, па Беларусі. Беларусь ён амаль усю аб’ездзіў. І без машыны шмат дзе пабываў. У гаражы мы нават экспануем мапу дарог Васіля Уладзіміравіча. Дыяпазон велізарны — ад расійскага Далёкага Усходу да ЗША і Канады. Усе гэтыя кропачкі мы пазначылі на мапе.

**— А што за гісторыя была з адкрыццём музея? Чаму на ўрачыстасці не было ні Ірыны Міхайлаўны Быкавай, ні сяброў пісьменніка?**

— Вы не маеце рацыі. У дзень адкрыцця сюды прыязджалі і Ірына Міхайлаўна, і блізкі сябра Быкава Анатоль Вярцінскі, і старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч. Проста яны не дачакаліся самой урачыстасці. Зайшлі наверх, паглядзелі экспанаты. Чаму з’ехалі — я не ведаю, на гэты конт у мяне з імі размовы не было. На маю думку, Быкаў павінен нас аб’ядноўваць. Быкаўская проза сёння становіцца надзвычай актуальнай — у звязку з падзеямі ва Украіне. Быкаў паказвае, як чалавек мусіць выжываць у нялюдскіх умовах. Сёння для беларусаў Быкаў — адзін з нямногіх чыннікаў, які нас аб’ядноўвае. Нягледзячы на палітычную, ідэалагічную раз’яднанасць многіх з нас, Быкаў застаецца сцягам еднасці. Яго творчасць цікавая і левым, і правым, і чырвоным, і белым. Мастацкі ўзровень прозы Быкава прызнаны ва ўсім свеце, яна застаецца для ўсіх актуальнай. У Быкава няма часовых, кан’юнктурных тэм, няма часовых вобразаў. Усё тое, што ім напісана, сёння можа быць запатрабавана.

**— У Музеі-лецішчы няма ніякага абагравання, апрача каміна. А што вы будзеце рабіць зімой — экспанаты ж могуць папсавацца?**

— Сама назва «Музей-лецішча» паказвае на сезоннасць нашай работы. Мы будзем працаваць з мая па верасень. Зрабіць тут абаграванне — дарагая і няпростая справа. Для гэтага патрэбны новы праект, які дазволіў бы не парушыць мемарыяльнасць комплексу. Магчыма, у будучыні знойдуцца нейкія сучасныя абагравальныя прылады, якія не будуць закранаць архітэктуру памяшканняў. Але пакуль што мы будзем працаваць улетку, а на зіму зачынімся, паставім усё пад сігналізацыю. Вядома ж, будзем наведвацца, наводзіць тут парадак. А пакуль лета – запрашаю! Наш кантактны тэлефон 334-72-61.

**Міхась СКОБЛА.**

